ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

КРАСАВІК, 2011

Пераварот - чарговая страшылка для беларускага грамадства

СТАР. 3

Як гомельскага псіхіятра пасадзілі, а потым цалкам апраўдалі

СТАР. 4

# ВАЛЯНЦІН СТЭФАНОВІЧ: «УЛАДА МАЕ ДАСТОЙНАЕ ВЫЙСЦЕ - ВЫЗВАЛІЦЬ УСІХ»



**Наш субяседнік - не толькі «змагар» за правы чалавека, але і высакакласны юрыст. З праваабарончай арганізацыяй «Вясна-96» (цяпер «Вясна») пачаў супрацоўнічаць яшчэ студэнтам, а ў 1998 годзе перайшоў туды на сталую працу.**

**- Якая сітуацыя, на ваш «праваабарончы» погляд, сёння склалася ў Беларусі?**

Пасля 19 снежня яна вельмі моцна змянілася. У параўнанні з тым, што мы назіралі два папярэдніх гады, адбыўся вельмі моцны адкат назад. Канец 2008 года, увесь 2009-ы і перыяд да 19 снежня 2010 года - гэта час, калі ўлады праводзілі палітыку лібералізацыі.

Калі глядзець у мінулае з пазіцый сённяшняга дня, становіцца абсалютна зразумелым, што ўся яна зводзілася толькі да зніжэння ўзроўню рэпрэсій. Ніякіх сістэмных зменаў мы, на жаль, не ўбачылі, хаця менавіта яны маглі сведчыць аб тым, што Беларусь сапраўды імкнецца да прадэклараванай мэты. І што працэс гэты становіцца незваротным. Сітуацыя змянілася да горшага.

Улады вярнуліся да найбольш жорсткай, рэпрэсіўнай формы сваіх паводзінаў у кіраванні краінай. Такой колькасці палітвязняў за усе 13 гадоў маёй праваабарончай дзейнасці яшчэ не было! Пасля 19 снежня 2010 года ўпершыню ў гісторыі Беларусі былі ўзбуджаны крымінальныя справы па артыкуле 293 КК РБ. Раней падобнай практыкі не існавала.

Дарэчы, адкат у мінулае назіраецца не толькі ў палітычнай сферы. Можна ўзгадаць (нягледзячы на афіцыйнае адмежаванне) і «чорныя спісы» музыкаў, іншых непажаданых уладзе дзеячаў культуры, і незаконнае звальненне з працы за іншадумства, і выключэнні з ВНУ. Усё гэта сведчыць аб тым, што адкат вельмі сур'ёзны, ён закрануў усе сферы нашага жыцця.

**- Пасля 19 снежня некалькі тыдняў запар адбываліся арышты іператрусы. Цяпер пачаліся судовыя працэсы, і ўжо прагучалі першыя прысуды. Якое пра іх ўражанне ў юрыста і праваабаронцы?**

На многіх з іх я быў асабіста. Мы адсочваем іх уважліва. Першая выснова (пра што неаднаразова заяўлялася) - мая нязгода з тым, што гэтыя падзеі класіфікуюцца як масавыя беспарадкі. Зыходзячы з артыкула 293 КК, пад такімі маецца на ўвазе сукупнасць дзеянняў - «падпалы, пагромы, супраціў супрацоўнікам міліцыі пры знішчэнні маёмасці і гвалце над асобай». Падкрэсліваю, менавіта сукупнасць гэтых дзеянняў, таму што Крымінальны кодэкс у дадзеным выпадку не кажа пра тое, што магчыма нешта адно. У артыкуле няма слоў «альбо», «ці», гэта значыць пералік ідзе праз коску.

Другое. Маштабнасць. Калі браць тыя ж пагромы, то тут маюцца на ўвазе дзеянні агалцелага шматлікага натоўпу, якія носяць характар гвалту над асобай, значнае прынясенне шкоды якой-небудзь маёмасці, працяглась па часе і г.д. Усяго гэтага, на наш погляд, няма.

Так, па відэа- і іншых матэрыялах следства відаць, як нейкая нязначная частка грамадзян (дэманстрантаў ці не) здзяйсняе актыўныя дзеянні, якія можна расцэньваць як парушэнне правапарадку, але ў любым выпадку гэта не ёсць "масавыя беспарадкі».

(працяг на 2 стр.)




*Выбух у менскім метро кваліфікаваны як тэракт, першая рэакцыя на яго шок, бо для спакойнай Беларусі падобнае злачынства з'яўляецца выключэннем з выключэнняў. Цяжка нават уявіць, каму гэта было патрэбна. У дадзеным выпадку за выбухам стаяць канкрэтныя фігуры, якія пераследуюць пэўныя мэты. І гэта страшна.*

*Праваабарончы цэнтр "Вясна" выказвае самыя шчырыя спачуванні сем'ям загінулых і пацярпелых. Смуткуем разам з нашым народам, якому яшчэ давядзецца ўсвядоміць і перажыць тое, што адбылося. Мы спадзяемся і верым, што злачынцы панясуць адказнасць у якой бы то ні было форме судовай ці божай кары.* http://spring96.org/

# Валянцін Стэфановіч: «Улада мае дастойнае выйсце — вызваліць усіх»

(пачатак на 1 стр.)

На праведзеных ўжо судах тыя ж супрацоўнікі міліцыі паказалі, што на ганку Дома ўраду было ад 30 да 40 чалавек. Гэта з улікам журналістаў, што там знаходзіліся. Гэта значыць сапраўдная колькасць «пагромшчыкаў» у рэальнасці каля 20. У параўнанні з дзесяткамі тысяч дэманстрантаў, якія стаялі на плошчы, гэта вельмі нязначная колькасць.

Гэта наводзіць на пэўныя разважанні. Перш за ўсё, на пытанне аб тым, чаму органы правапарадку не спынілі беспарадкі адразу? Для той канцэнтрацыі міліцыянтаў, якая тады была на плошчы Незалежнасці, справіцца з задачай было лягчэй, чым чыхнуць.

Але ж артыкул да «пагромшчыкам» ужываецца вельмі цяжкі, з сур'ёзнымі санкцыямі. Яе першая частка прадугледжвае пакаранне ад 5 да 15 гадоў пазбаўлення волі, другая ад 3 да 8 гадоў. Такім чынам, адказнасць не абы-якая. Працэсы ж праходзяць, мякка кажучы, у хуткім тэмпе. Справу першага абвінавачанага Парфенкова суд разглядаў ўсяго адзін дзень. Так павінна быць толькі з нейкімі адміністрацыйнымі правапарушэннямі. І тое нязначнымі. Тут жа гаворка ідзе аб немалых тэрмінах пазбаўлення волі.

Доказаў, на мой погляд, у судзе важкіх не было. Сведак (супрацоўнікаў міліцыі), як і пацярпелых, таксама. Адзінае, што зафіксавала відэаздымка: Парфянкоў штурхаў і наносіў ўдары па нейкім драўляным канструкцыям, якімі былі перагароджаны пабітыя ўжо вокны і дзверы Дома ўрада. Пры гэтым у грамадзянскім пазове ў пераліку сапсаванай маёмасці ніякіх драўляных канструкцый няма. Там ёсць шкло, шклопакеты, восем метраў вадасцёкавай трубы і пяць кустоў ядлоўца. Пераканаўчых доказаў таго, што Парфянкоў непасрэдна здзяйсняў нейкія «масавыя беспарадкі», суду ніхто не прадставіў.

Што, зрэшты, не перашкодзіла даць яму чатыры гады. Атрымліваецца, што чалавека пакаралі толькі за тое, што ён быў раней судзімы. Менавіта гэта прагучала ў каментарах на судзе.

На мой погляд, па шэрагу справаў чыя-небудзь віна ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага часткай другой артыкула 293 КК, адсутнічае, таму што адсутнічае факт самога злачынства. Ніякіх доказаў "масавых беспарадкаў", паўтаруся, у судах прадстаўлена не было, бо іх не было на самой справе. Тое ж самае і з нагоды ўдзелу падсудных у нейкіх супрацьпраўных дзеяннях.

«Белыя ніткі» выглядалі так відавочна і тапорна, што неўзабаве ў судах пачалі з'яўляцца «пацярпелыя». Упершыню ў справе Гапонова-Брэуса, пазней у справе Мядзведзя і Ліхавіда. Усе без выключэння пацярпелыя супрацоўнікі міліцыі. Спачатку іх было 15 чалавек, потым стала 29.

Дарэчы, з 29 пацярпелых па справе 20-гадовага Ліхавіда 22 належным чынам не зафіксавалі нанесеныя ім цялесныя пашкоджанні. Іншымі словамі, экспертыза не змагла ўстанавіць тое, што такавыя мелі месца ...

> «Доказаў, на мой погляд, у судзе важкіх не было. Сведак (супрацоўнікаў міліцыі), як і пацярпелых, таксама»

Як і вызначыць іх цяжар, спосабы нанясення і г.д., таму што гэтыя асобы не з'явіліся на адпаведны агляд судова-медыцынскай экспертызы. Шпіталь, у які яны звярнуліся ў ноч на 20 снежня 2010 года і наступныя суткі, не прадаставіў на гэты конт ніякіх медыцынскіх дакументаў. Усе сцвярджэнні аб пашкоджаннях грунтуюцца толькі на запісах у журнале шпіталя. І ўсё.

Мусіць, камусьці вельмі хацелася даказаць, што меў месца нейкі гвалт. І такім чынам апраўдаць ўласныя дзеянні ...

Яшчэ адзін нюанс. Ўсе пацярпелыя з'явіліся ўжо пасля таго, як была скончана вытворчасць па справе. Раней яны там не фігуравалі.

Мы прынцыпова не згодныя з вылучэннем крымінальных спраў у асобную вытворчасць. Расследаванне па ім яшчэ не скончана, фактаў масавых беспарадкаў як такавых яшчэ не ўстаноўлена. Следства пакуль толькі вядзецца, а людзей ужо судзяць ...

Такое ўражанне, што ствараецца база, якая пазней дазволіць спасылацца на факты, устаноўленыя ў папярэдніх працэсах. Думаю, сэнс дзеяньняў уладаў менавіта ў гэтым і складаецца.

**- А чаму некаторым з фігурантаў змякчылі абвінавачванні?**

У апошні час гэты пытанне мне задаюць часцей за ўсё. У прынцыпе, крымінальнаму заканадаўству гэта не супярэчыць. Калі адсутнічаюць прыкметы масавых беспарадкаў, то абвінавачванні могуць быць перакваліфікаваныя ў хуліганства ці групавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак. У гэтай частцы ніякіх прэтэнзій няма, але ўзнікаюць пытанні адносна раней вынесеных прысудаў. Напрыклад, відэаздымка не зафіксавала якіх-небудзь дзеянняў з боку Аляксандра Атрошчанкава, які атрымаў чатыры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Як і ў Бреуса з Гапоновым. Яны знаходзіліся ў натоўпе і былі прызнаныя вінаватымі толькі за гэта ...

Вядома, новыя абвінавачванні, вылучаныя да асобных фігурантам, больш мяккія. Акрамя трох гадоў зняволення пад вартай яны прадугледжваюць іншыя формы пакарання. Напрыклад, штрафы альбо «хімію». З чым канкрэтна звязана гэтая перакваліфікацыя, судзіць не бяруся, але, магчыма, гэта пагрозы з боку Еўрапейскага саюза і ЗША перайсці да больш сур'ёзных санкцыяў у адносінах да беларускіх уладаў. Можа быць, эканамічных.

Аднак перакваліфікацыя толькі «фігавы лісток». Выглядае яна неперакананўча. Па-ранейшаму ёсць тыя, хто абвінавачваюцца ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках. Гэта Ус, Статкевіч, Саннікаў, Лябедзька і іншыя. Усім ім пагражаюць даволі сур'ёзныя тэрміны.

Нават калі ўсім тым, каму «змякчылі» абвінавачванне, суды вынесуць прысуды, не звязаныя з пазбаўленнем свабоды, па вялікім рахунку, беларускім уладам нічога гэта не дае.

Па маім глыбокім перакананні, у іх ёсць дастойны выхад са склаўшагася становішча: вызваліць усіх. Вельмі хочацца спадзявацца на тое, што ўлады выберуць менавіта яго.

**Аляксандр Тамковіч**



## Алесь Бяляцкі: «Антыканстуцыйны пераварот - чарговая страшылка для беларускага грамадства»

*5 красавіка адказная асоба з Упраўленьня інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі паведаміла сродкам масавай інфармацыі пра тое, што следствам па справе аб масавых беспарадках "атрыманыя вычарпальныя доказы аб спробе змены Канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь па папярэдняй змове з прадстаўнікамі замежных дзяржаў і арганізацый, якія, па сутнасці, ставілі канчатковай мэтай ажыццяўленне дзяржаўнага перавароту".*

На пытаньні, наколькі гэтае сцверджаньне абгрунтаванае і ці могуць быць ў звязку з падобнай заявай перакваліфікаваныя абвінавачваньні у дачыненні да так званых "вінаватых" па справе 19 сьнежня адказвае **віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі:**

Міністэства ўнутраных спраў фактычна абвінавацiла арганізатараў і ўдзельнікаў акцыі пратэсту 19 снежня 2010 году ў тым, што яны рыхтавалі антыканстытуцыйны пераварот. Усё гэта мала зразумела і ўвогуле неверагодна, паколькі ўсе крымінальныя справы, якія дагэтуль разглядаліся, грунтаваліся на зусім іншых артыкулах крымінальнага кодэксу, якія ў сваю чаргу таксама выклікаюць у праваабаронцаў шматлікія пытаньні. Асабліва артыкул 293 ( удзел у масавых беспарадках). Наяўнасьць так званых масавых беспарадкаў не была абгрунтавана пацьверджана ні на водным з прайшоўшых па гэтай справе судоў. Гэтага не прызнаюць ні абвінавачваныя, ні сьведкі (нават міліцыянты!). Адвакаты пастаянна і прынцыпова аспрэчваюць такую кваліфікацыю дзеяньняў удзельнікаў мітынгу. З матэрыялаў судоў бачна, што 293 артыкул, які гучыць сёньня ў судах гэта поўная фікцыя, паколькі не было ні падпалаў, ні пагромаў, ні арганізаванага масавага супраціву. Прыцягнутыя за вушы "масавыя беспарадкі" ўрэшце былі перакваліфікаваныя для некаторых абвінавачаных на іншы артыкул.

Гэта была мірная акцыя, і на гэтым фоне яшчэ больш цынічна гучыць абвінавачваньне ў спробе змены канстытуцыйнага ладу.

З боку міністра ўнутраных спраў у чарговы раз прагучала непрафесійнае, папулісцкае выказваньне, якое скіраванае на застрашэньне беларускага грамадства. Мэта, якую з самага пачатку ставілі перад сабой сілавыя структуры пад час разгону мірнай акцыі, непрапарцыйна ўжыўшы гвалт і катаваньні да дэманстрантаў, зьбіць грамадскую актыўнасьць. Мне падаецца, міліцэйскае начальства хоча прыкрыць садысцкія дзеяньні сваіх падначаленых падчас разгону акцыі, а таксама пасьля, у дачыненні да затрыманых, новымі страшылкамі. Людзі атрымалі шматлікія пашкоджаньні, былі пераламаныя рукі, ногі, разбітыя галовы, выбітыя зубы. Аднак пракуратура не знайшла вінаватых у гэтых злачынствах, прыкрываючы супрацоўнікаў міліцыі. Тут міністру ўнутраных спраў неабходна было б правесьці адмысловае расьследваньне у дачыненьні да сваіх службоўцаў, а не выслужвацца, прыдумляючы новыя страшылкі.

Відавочна, што гэтая заява МУС мае палітычны падтэкст і вельмі кепска, што МУС у грубай форме, з дубінкамі і гвалтам, падаўляе грамадскую актыўнасць. Між тым пытаньні пра фальсіфікацыю выбараў і безтэрміновае 16-гадовае праўленьне Аляксандра Лукашэнкі ў грамадзянаў Беларусі застаюцца.

**http://spring96.org/**

## Ня здаў адбіткі пальцаў - плаці штраф 875 тысяч

Судзьдзя Савецкага раёну Гомеля Галіна Сыцько аштрафавала старшыню Гомельскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Васіля Палякова на 875 тысяч рублёў, паведамляе **"Радыё Свабода."** Актывіст адмовіўся здаць у райаддзеле міліцыі адбіткі пальцаў, і ў дачыненьні да яго быў складзены адміністрацыйны пратакол за непадпарадкаваньне законнаму распараджэньню альбо патрабаваньню службовай асобы.

Судзьдзя адхіліла хадайніцтва спадара Палякова, каб ягоныя інтарэсы падчас судовага паседжаньня прадстаўляў сябра АГП, юрыст **Леанід Судаленка**.

Сам Васіль Палякоў патлумачыў у судзе, што здача адбіткаў пальцаў прыніжае ягоную чалавечую годнасьць, а фарба, якой карыстаюцца ў міліцыі дзеля правядзеньня дактыляскапіі, можа пашкодзіць здароўю.



Апрача таго, адбіткі пальцаў невядома як захоўваюцца ў міліцыі. Вядомыя выпадкі, напрыклад, у Мазыры, калі актывісты здавалі адбіткі, але зараз іх ня могуць знайсьці і ад людзей зноў патрабуюць прайсьці дактыляскапічную працэдуру.

Юрыст Леанід Судаленка зьвяртае ўвагу на тое, што закон пра дактыляскапічную рэгістрацыю не прадугледжвае адказнасьці за адмову здаць адбіткі пальцаў. Судзьдзя Сыцько стварыла судовы прэцэдэнт, пакараўшы за гэта актывіста штрафам у памеры 25 базавых велічыняў.

Штраф Васіль Палякоў зьбіраецца аспрэчыць у абласным судзе, а калі спатрэбіцца, то і ў Вярхоўным судзе, і ў Камітэце ААН па правах чалавека.

# ГОМЕЛЬСКАГА ПСІХІЯТРА **ПАСАДЗІЛІ,** А ПОТЫМ ЦАЛКАМ **АПРАЎДАЛІ**



Тры гады следства, дзесятак судовых паседжанняў, некалькі дзесяткаў скарг ва ўсе інстанцыі, год і месяц у СІЗА і нарэшце гомельскі ўрач-псіхіятр цалкам апраўданы. Гісторыя гэта пачалася летам 2008 года ў Гомелі. Нехта невядомы некалькі разоў падпальваў гаражы ў Навабеліцкім раёне Гомеля. Прыязджалі выратавальнікі, міліцыя, але падпальшчык затрыманы не быў. На месцы падпалаў быў затрыманы ўрач-псіхіятр Яўген Дзедушкін. Ён жыў побач з месцам здарэння, таму, здавалася б, нічога дзіўнага не было ў тым, што, ўбачыўшы зарава, малады чалавек апынуўся на месцы здарэння. Бяда яго была ў тым, што на момант пажараў ён быў выпіўшы, і міліцыя забрала маладога чалавека. Праз некалькі дзён у мясцовай прэсе прайшло паведамленне, што за падпалы затрыманы «псіхіятр-піраман». Кіраўніцтва абласной псіхіятрычнай бальніцы тэрмінова пазбавілася «злачынцы», звольніўшы Дзедушкіна з працы. «Фармальна падстава для звальнення была я не быў на працы, таму што напярэдадні мяне збілі міліцыянеры за тыя ж падпалы, я кепка сябе адчуваў, не пайшоў на працу. Але неафіцыйна пайшлі плёткі, публікацыі ў мясцовых СМІ, і гэта і было нагодай для звальнення. Хто хоча звязвацца з чалавекам, якога абвінавацілі ў злачынстве?» - распавёў Дзедушкін.

У лютым 2009 года суд прызнаў Дзедушкіна вінаватым у падпалах і адмераў яму 4 гады пазбаўлення волі. Хоць нават на судзе ні адзін сведка не пазнаў у былым урачы падпальшчыка, і аб'ектыўных доказаў яго віны не было прадстаўлена.

На ўзроўні раённых судоў і абласнога складваецца такое ўражанне, што ўсе адзін за ўсіх, і ўсе за аднаго, усе адзін аднаго пакрываюць. Мяне ўсе-такі апраўдалі, і таму я не маю маральнага права казаць, што беларускае правасуддзе такое благое. Але на самой справе гэта страшна спачатку мяне пасадзілі на чатыры гады за тое, што я не здзяйсняў, а потым апраўдалі. Мне пашанцавала, што я трохі сам разбіраўся ў кодэксах, я меў адваката, які пісаў скаргі, мне дапамагала маці, і не сакрэт, што гэта ўсе скаргі, адвакаты, каштуе немалых грошай. Добра, што ў нас яны былі. А што рабіць тым людзям, якіх «закаталі» сюды, але яны не маюць юрыдычнай граматы хоць якой, не маюць грошай, і такім чынам не могуць супрацьстаяць гэтай сістэме, - кажа псіхіятр.

Судовая калегія Гомельскага абласнога суда 24 сакавіка 2011 года цалкам апраўдала былога ўрача, з яго знялі ўсе абвінавачванні. Між тым паўстае пытанне: хто адкажа за тое, што нявінны чалавек больш за год правеў у СІЗА? Відавочна, што зараз трэба караць следчых, раённы суд.

А каму хочацца несці адказнасць? Таму сёння стала вядома, што пракуратура не пагадзілася з прысудам абласнога суда, і падала пратэст.

**http://spring96.org/**

## *Адгалоскі выбараў у Гомелі: удзельніца агітацыйнай кампаніі Някляева засталася без працы*

Падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў жыхарка Гомеля Вольга Лямцава прымала актыўны ўдзел у агітацыйных пікетах за Уладзіміра Някляева, распаўсюджвала ўлеткі, стаяла на пікетах, прымала ўдзел у назіранні. Яе дзейнасць не засталася па-за ўвагай начальства на працы.

«Яшчэ ў час выбараў да мяне падыйшоў мой непасрэдны начальнік - а працавала я на прыватным прадпрыемстве - і пачаў дакараць мяне за ўдзел у агітацыі за апазіцыйнага кандыдата. Маўляў, навошта табе гэта, будзеш мець праблемы, і не толькі ты, але і я - праз цябе. Падумай добра пра наступствы і, маўляў, «кінь дурное» - параіў ён мне. Але я «не паслухалася», і ўжо пасля выбараў у мяне пачаліся праблемы на працы. Дакладней, мне стварылі такія ўмовы, што немагчыма было нармальна працаваць», - распавяла Лямцава.

Яна кажа, што ёй пачалі затрымліваць заробак, які да ўсяго і значна знізіўся, а таксама прымушалі працаваць больш і не па графіку.

«Я працавала дыспетчарам, і толькі прыйду са змены, а мне тэлефануюць і загадваюць зноў ісці працаваць на суткі. Урэшце рэшт, я абурылася і паскардзілася начальству - дакладней, запыталася, з чым звязаны такія адносіны да мяне асабіста. Ёне мне адказаў, што, маўляў, я цябе папярэджваў падчас выбараў, што будзеш мець праблемы, таму, калі не падабаецца - звальняйся», - дадала Вольга.

Яна была вымушана звольніцца, і зараз шукае працу, але пакуль безвынікова.

**http://spring96.org/**

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.